*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 28 (83)* *27 жніўня – 2 верасьня 1994 г.* *Кошт 30 рублёў*

*Народны Рух разваліўся, бо Гайдукевічу падалося, што ён стаіць вышэй, чым Лукашэнка* - ст. 2.

*Калі "дзед" крыкне, што ён у небясьпецы, "маладыя" трымаюць сьцены і столь* - ст. 3.

*Пратаколы допытаў нярэдка пісаліся следчымі ў адсутнасці арыштаваных* - ст. 5.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург.*

## У ГОНАР ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ



19 жніўня пачаўся тыдзень ушанаваньня памяці вялікай дачкі беларускага народа Ларысы Геніюш. У Зэльвуна мерапрыемствы з гэтай нагоды прыехалі дэлегацыі з Менску, Горадні, Беласточчыны.

Настаяцель мясцовай царквы айцец Валянцін адслужыў малебен на беларускай мове. Памаліўся ён і на магіле Ларысы і Яна Геніюшаў. Прагучалі ўспаміны пра гэтых выдатных людзей, вершы. Вянок ад Патрыятычнага руху БЗВ усклаў старшыня Мікола Статкевіч.

Песьні на вершы ларысы Геніюш, беларускія народныя песьні прагучалі і ў раённым Доме культуры.Менчукі перадалі мясцовым уладам першыя экспанаты ў будучы музэй Ларысы Геніюш.

З 20 жніўня тыдзень памяці прадоўжыў тэатр аднаго актора Галіны Дзягілевай сьпектаклям "Белы сон" па творах Ларысы Антонаўны.

**С.СУДНІК.**

***

Сёньня на пласе родная мова.
Вырваць жывую належыць з агню.
Слова "кахаю" - слабае слова.
Мужнае слова - "абараню"!

***

Адзінай мэты не зракуся,
і сэрца мне не задрыжыць:
як жыць - дык жыць для Беларусі.
А без яе - зусім не жыць.

***

Мы, як зубры,
мы ў сябе дома,
тутэйшыя, што ад вякоў жывуць.
Мы, як дубы,
нас можна зьнішчыць громам,
але з зямлі нас роднай
не скрануць...

## ВА ЎПРАЎЛЕНЬНІ ЎРАДА ВЫЯЎЛЕНА НЯСТАЧА

Падобна, што былога начальніка гаспадарчага ўпраўленьня Саўміна Трояна хутка чакае не вельмі прыемная размова з прадстаўніком праваахоўных органаў. Ёсьць зьвесткі, што новае кіраўніцтва ўрадавай, а цяпер ужо і прэзідэнцкай, гаспадаркі выявілі буйную нястачу матэрыяльных каштоўнасьцяў. Акрамя таго, па словах аднаго з работнікаў адміністрацыі Прэзідэнта, у апошнія дні кіраваньня Кебіча саўмінаўская маёмасьць практычна аказалася безгаспадарнай, не было належнага ўліку і кантроля за яе выкарыстаньнем. Гэты ж чалавек паведаміў, што незадоўга да адстаўкі Кебіча ў адным з домікаў урадавых дач у Драздах каля тыдня жылі невядомыя госьці, утрыманьне якіх каштавала беларускім падаткаплацельшчыкам прыкладна 16 мільёнаў рублёў.

## НЕЛЕГАЛЬНА ПЕРАЙШЛІ МЯЖУ

18 жніўня ў раёне Бераставіцы пайшла ў Польшчу група з 67 чалавек, грамадзян Шры-Ланкі, Індыі, Аўганістана і Пакістана. Да мяжы іх давёз "Ікарус", арэндаваны ў Менску двума суправаджальнікамі - грамадзянамі Азербайджана. Зьдзейсьніўшы падкоп па ўчастку, які ахоўваецца Гарадзенскім памежным атрадам, парушальнікі мяжы апынуліся на тэрыторыі Польшчы, дзе былі затрыманы мясцовымі памежнікамі. Ёсьць інфармацыя, што польскія памежнікі папярэдзілі беларускіх калег аб плануемым пераходзе мяжы, але яны ня здолелі яго прадухіліць. Зараз падарожнікі, якія хацелі трапіць у Германію, вернуты на Беларусь.

**СІМ**

## ГАЗАПРОВАД ГОРАДНЯ-КАРАЛЕВЕЦ ПРОЙДЗЕ ПРАЗ ПОЛЬШЧУ

Прадстаўнікі расейскага канцэрна "Газпрам", Каралевіцкага прадпрыемства "Газойл", беларускага "Белтрансгазу" сумесна з роднаснай арганізацыяй Польшчы "Gazownictwo" узгаднілі з кіраўніцтвам Сувалскага ваяводзтва Польшчы папярэднія дэталі будаўніцтва газапровада Горадня-Каралевец. Па польскай тэрыторыі газапровад пройдзе з двума адгалінаваньнямі да буйнейшых гарадоў ваяводзтва - Сувалкі і Элк. Будаўніцтва галоўнай магістралі провада, якое скончыцца ў студзені 1996 года, зфінансуе польска-расейская кампанія "Эўрагаз". Сувалскае ваяводзтва павінна атрымаць 400 мільёнаў кубоў газу (патрэбы да 2010 года будуць у два разы меней). Па зьвестках, газапровад да Каралеўца будзе падключаны да кампрэсарнай станцыі ў Івацэвічах. Да Горадні новая галіна праляжа ўздоўж ужо існуючай веткі, што задавальняе пакуль што патрэбы горада й вытворчага аб'яднаньня "Азот".

**СІМ**

## ГУБІЦЬ ЛЮДЗЕЙ ВАДА

Два летніх месяцы бягучага года сталі рэкорднымі па колькасьці трагедый на вадзе. У чэрвені на вадаёмах Гарадзеншчыны патанула 11 чалавек, а ў ліпені ажно 74 (летась - 13). На думку старшыні аблсавета таварыства ратаваньня на водах А.Кандратовіча, павялічэньне колькасьці тапельцаў тлумачыцца сьпякотным надвор'ем у гэты час, а таксама тым, што ўсё часьцей адны лезуць у ваду ў нецьвярозым стане, а другія - не даглядаюць належным чынам сваіх нашчадкаў.

Толькі за два месяцы зарэгістравана 17 і 28 тапельцаў сярод дзяцей і п'яных адпаведна. Колькасьць загінуўшых на вадзе магла б быць яшчэ большай, але ратавальнікі прадухілілі гібель яшчэ 81 чалавека. Адзін з іх спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам: спрыгнуў са старога маста ў Горадні, але яны не дазволілі яму зрабіць гэтага. Увогуле ж, у зоне дзеяньня ратавальных станцый і пастоў не патануў ніводны чалавек.

**А.ДУК.**

## НА ДВАРЫ ЛЕТА, А МЫ - НА ЛЫЖАХ

Праўда, толькі водных. І, як высьветлілася на спаборніцтвах Кубка сьвету ў Аўстры, беларускія водналыжнікі, як і ў былыя гады, былі непераможнымі! Але аб усім па парадку.

У фігурным катаньні першынствавала Алеся Паўлава. Прычым, увесь п'едэстал гонару аказаўся беларускім: на другім месцы - Ю.Грамыка, На трэцім - Т.Канайкіна. Нашы дзяўчаты таксама вызначыліся і ў шматбор'і, падзяліўшы ўсе ўзнагароды (А.Паўлава, Ю.Грамыка і І.Турэц адпаведна). Выдатная тройка была лепшай і ў скачках з трампліну, але тут ужо першынствавала Ірына Турэц.

Мужчынскі турнір таксама прынес перамогі. Найбольш удала выступіў "фігурыст" Юрый Рыктэр, які атрымаў залаты медаль. І ў камандным заліку зборная Беларусі заняла першае месца, за ёй - Нямеччына й Чэхія.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## БЯЗПЛАТНА – ТОЛЬКІ СЯБРАМ ПРАФСАЮЗА

З нядаўняга часу ў Гарадзенскім вабласным савеце прафсаюзаў бязплатныя парады, рэкамэндацыі, даведкі выдаюцца толькі сябрам прафсаюза пры наяўнасьці ў апошніх дакумэнтаў.

Тым, хто жадае атрымаць ад прафсаюзаў кансультацыю, ня маючы сяброўства ў яго шэрагах, прыйдзецца плаціць грошы.

**Г.У.**

## СЬВЯТА ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

Адбылося паседжаньне аргкамітэта па сьвяткаваньню ў г.Горадні 480-х угодкаў перамогі беларускіх войскаў на чале з Канстанцінам Астрожскім і Юрыем Радзівілам над маскоўскімі захопнікамі ў бітве пад Воршай.

Сьвята запланавана на 10 верасьня. У праграме: урачыстае шэсьце, ускладаньне кветак, імша ў каталіцкіх і праваслаўных храмах, канцэрт бардаўскай песьні.

Збор а 18 гадзіне 10 верасьня на пляцы Леніна.

**Ул.інф.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЧАРГОВЫ ТРУК

Нават Пазьняку і Чыкіну не ўручалі так шумна пасьведчаньні аб рэгістрацыі іх партый, як гэта зрабілі Міколе Шэляговічу. А стаў Шаляговіч старшынёй партыі Усебеларускага адзінства і згоды. У сталічных палітычных колах такое расцанілі як чарговы трук "шчыргага палешука".

Мікола Шэляговіч мае не малыя амбіцыі. У свой час ён уступіў у Беларускі Народны Фронт. Але, апынуўшыся ў фроньце не на першых ролях, вырашыў адыйсьці і дзейнічаць самастойна, стварыўшы суполку "Палесьсе", прапанаваўшы народнафронтаўцам дамагацца амаль ці не аўтаноміі для палешукоў. Народны Фронт не падтрымаў яго, убачыўшы ў гэтым афёру, якая можа раскалоць беларускае грамадзтва. Не знайшоўшы падтрымкі і сярод іншых дэмакратаў, Шэляговіч, паказваючы, як яго пакрыўдзілі народнафронтаўцы, распачаў дзейнасьць у сваёй суполцы.

Затым яго імя ўсплывае ў Партыі Народнай Згоды. Ён актыўна ўключыўся ў яе дзейнасьць, нават быў абраны ў выканкам партыі. Напэўна, Шэляговіч спадзяваўся, што яго падтрымаюць там, тым больш, што ПНЗ не стаіць на такіх трывалых нацыянальных пазіцыях як БНФ. Акрамя таго, у новай партыі можна было заняць вядучае месца. Але згодаўцы не зразумелі палешуцкіх намераў Шэляговіча. Ды і лідэры ў іх зьявіліся моцныя - Генадзь Карпенка і Віктар Ганчар, якія асабліва не жадалі выслухоўваць авантурныя парады. З ПНЗ прыйшлося разьвітацца. Сам Шэляговіч тлумачыць гэта тым, што ПНЗ зблізілася з БНФ, але, думаецца, справа ў іншым. Карпенка і яго партыя не здолелі хутка стаць аўтарытэтнымі. Трэба было шукаць новае месца, каб усе бачылі, што ёсьць такі Шэляговіч. У гэты ж час умацоўваюцца пазыцыі В.Кебіча. І Мікола ідзе ў Народны Рух Беларусі. Становіцца актыўным дзеячом. Падчас прэзідэнцкай кампаніі вырашыў зарэгістравацца кандыдатам, хоць выдатна ведаў, што сабраць 100 тысяч подпісаў - тое ж самае, што ўбачыць свае вушы. Затое здолеў прарэкламаваць сваё імя. А потым, зразумеўшы куды дзьме вецер, падтрымаў Аляксандра Лукашэнку і таксама разгарнуў тут актыўную дзейнасьць: выступаў, езьдзіў, пісаў... Праўда, Лукашэнка не асабліва аценіў яго. Цяпер разам з нядаўнікамі па прэзідэнцкаму марафону Цярэшчанкам і Бяловым стварылі партыю. Ды назву пазычылі ў партыі Народнай Згоды, тым самым выклікаўшы абурэньне ў членаў апошняй. Для чаго патрэбна Шэляговічу партыя? Хутка выбары народных дэпутатаў. І Мікола хоча таксама абрацца. Без падтрымкі нельга гэтага зрабіць. Таму і стварылі арганізацыю. Партыя - гэта не толькі людзі, але й грашовыя сродкі. А яны будуць ў гэтай партыі. Сёньня Шэляговіч заяўляе, што ў яго арганізацыі ўжо 720 членаў. Хлусіць, больш 200 разам з яго сябрамі не будзе. Але затое партыя, затое ж старшыня... Упэўнены, хутка Шэляговіч выкіне яшчэ які-небудзь трук.

## ВОЛЬНАЯ ПТУШКА. ДАКУЛЬ?

Нядаўна кіраўнік адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Сініцын заявіў, што адбываецца рух зьнізу па стварэньню партыі, якую б узначаліў Аляксандр Лукашэнка. Сініцын заўважыў, што ў Лукашэнкі няма пакуль намеру ствараць уласную партыю, але калі ініцыятыва будзе працягвацца, ён яе падтрымае.

Сам Прэзідэнт, з аднаго боку, зацікаўлены мець палітычную сілу, на якую можна абаперціся, бо цяпер у яго даволі хісткае становішча - тыя, хто падтрымаў яго ў час выбараў, могуць у любы момант адвярнуцца. А з другога боку, Прэзідэнт ня хоча зьвязваць сябе путамі партыйнай дысцыпліны. Бо яго дзеяньні нярэдка йдуць у разрэз з перадвыбарнымі абяцаньнямі.

Аляксандр Лукашэнка ўжо меў магчымасьць стаць кіраўніком палітычнай партыі. Як распавеў намесьнік старшыні Партыі народнай згоды Леанід Лойка, справа была так. Вясной 1991 года ў Вярхоўным Савеце была створана дэпутацкая група "Камуністы за дэмакратыю", у склад якой уваходзілі Аляксандр Лукашэнка, Аляксандр Сасноў, Васіль Даўгалёў, Леанід Сініцын, Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар. Найбольш энэргічным з іх быў Аляксандр Лукашэнка. Таму менавіта з ім увайшла у кантакт група партыйных інтэлігентаў Менска. Дзьве гэтыя групоўкі арганізавалі ініцыятыўную групу па стварэньню новай партыі. У верасьні Лукашэнка і Сасноў былі абраны сустаршынямі аргкамітэту. Але потым абодва па-ангельску, нават не разьвітаўшыся, адыйшлі: адзін - улева, а другі - управа. Тады прыйшлося выбіраць старшынёй партыі Генадзя Карпенку.

Так што Аляксандр Лукашэнка - вольная птушка. Пакуль.

**Уладзімір ВОЙНА.**

## ЛОПНУЛІ, ЯК МЫЛЬНЫ ПУХІР

Народны рух Беларусі яшчэ вясной лічылі амаль ці не самай уплывовай палітычнай сілай. А яго лідэр Сяргей Гайдукевіч, выпінаючы грудзі, заяўляў аб будучых перамогах. Рух аб'ядноўваў звыш 20 арганізацый - ад Партыі камуністаў да спартыўнага таварыства "Спартак". Гэта давала яго ўдзельнікам, па іх уяўленьню, права называцца "сапраўды народным".

Сёньня ж многія не баяцца гэты рух пхнуць нагой, ці плюнуць у яго бок. А Гайдукевіч нагадвае мокрага вераб'я.

Не сакрэт, што НРБ быў створаны у супрацьвагу дэмакратычным сілам, і ў першую чаргу Беларускаму Народнаму Фронту. І, як кажуць, яго родным бацькам стаў Саўмін. Кебічу выгадна было мець сілу, якая б падтрымлівала яго. Пры тым, гэтая сіла яшчэ і аб'ядноўвала многія арганізацыі. Невыпадкова сустаршынёй руху стаў Гайдукевіч. Ён актыўна выступаў у абарону сацыяльных правоў ваеннаслужачых і атрымаў на гэтым пэўны аўтарытэт. Кебіч вырашыў прыбрадць палкоўніка да сваіх рук, прапанаваўшы яму працу ў Камітэце па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых. А потым выпусьціў і на палітычную арэну.

Гайдукевіч верна служыў Кебічу. Але каб так служыць увесь час, неабходна адкінуць усе амбіцыі. А Гайдукевіч сам захацеў стаць Фюрэрам, таму і пачаў актыўную дзейнасьць. Пакуль гэта было даспадобы Кебічу і яго камандзе - усё было добра. НРБ і Гайдукевіч мелі шырокі доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Ім прадастаўляліся урадовыя дакумэнты. Іх заўвагі тут жа ухваляліся і прымаліся да ведама. І калі Аляксандр Лукашэнка пачаў сваю "антыкарупцыйную справу", Сяргей быў тут як тут. Ён часта прападаў у кабінэце Лукашэнкі. Падкрэсьліваў, што Народны Рух дапамагае камісіі на справе, а не на словах, як гэта, маўляў, робяць дэмакраты.

Час ішоў - набліжаліся прэзідэнцкія выбары. І тут у Народным Руху ўзьніклі спрэчкі: камуністы не захацелі падтрымліваць Кебіча, вырашылі дзейнічаць самастойна. Па іх меркаваньнях Кебіч не павінен быў быць Прэзідэнтам, бо і цяпер ня можа добра кіраваць дзяржавай. Іншыя члены НРБ зрабілі стаўку на Лукашэнку, бо бачылі, што гэта беспройгрышны варыянт. І толькі Гайдукевіч ды яго бліжэйшыя паплечнікі працягвалі балбатаць, што сёньня патрэбен менавіта Кебіч. Больш таго, Сяргей Гайдукевіч вырашыў паказаць хто ў доме гаспадар. І пачаў весьці самастойную гульню не параіўшыся з другімі кіраўнікамі арганізацый. Гэта тым не спадабалася. Не спадабалася такое і кебічаўцам, бо рады НРБ пахіснуліся.

Што ж, амбіцыі Гайдукевіча лопнулі як мыльны пухір. Адзін з вядомых дзеячоў гэтай арганізацыі з сумам заўважыў, што рух развальўся таму, што Гайдукевічу падалося, што ён стаіць вышэй, чым Лукашэнка. Першымі пакінулі рух камуністы, затым ЛКСМБ ды іншыя. Сёньня ў НРБ уваходзіць яшчэ нямала арганізацый. Але што яны ўяўляюць у параўнаньні з ПКБ? Нуль бяз палачкі. Ды і падтрымкі руху з боку афіцыйных структур няма.

Гайдукевіч пыжыцца, заяўляе аб пераглядзе праграмы. Добра, калі праграма НРБ будзе перагледжана і стане адпавядаць нармальным патрабаваньням. Толькі цягнік даўно адыйшоў. А славянскім саборам, жырыноўцам, марыністам-баталістам, ваенным маракам рабіць на Беларусі няма чаго.

**У.А.**

## НА ПЕНСІЮ

Не пашанцавала Ўладзіміру Данько. Радавы міліцыянер, начальнік райаддзела, начальнік абласнога ўпраўленьня, намесьнік, першы намесьнік і нарэшце міністр унутраных спраў. Прывабны, стройны, малажавы мужчына, на якім так добра сядзіць міліцэйскі касьцюм. Але пабыў міністрам ён менш паўгода.

Уладзімір Аляксандравіч заўсёды ўмеў трымаць нос па ветры, а тут даў маху і вельмі вялікага. Трэба ж было Данько адмовіць Лукашэнку ў прадстаўленьні яго камісіі неабходных дакументаў. Адмовіў у прынцыпе правільна, але сёньня Прэзідэнт Лукашэнка, а не Кебіч, загады якога міністр выконваў раней. Адным з такіх загадаў было і звальненьне супрацоўнікаў МУС Сазонава і Мялумава, якія адмовіліся вяртацца з камісіі назад у Міністэрства. А цяпер Сазонаў і Мялумаў - адны з самых уплывовых людзей у апараце прэзідэнта. Таму стаў Данько пэрсонай апальнай. І ніхто за яго не заступіўся: у камуністаў свае клопаты, а дэмакратам былы міністр непатрэбны, бо меў неасьцярогу заявіць, што па пераканаsuccessful камуністам.

Што ж, бывайце, Уладзімір Аляксандравіч! Не прачытаем мы больш вашых палымяных міліцэйскіх артыкулаў у газетах. Затое можна пісаць мемуары, ці аналізаваць камуністычную ідэалогію ў Беларусі.

**У.СЕМЯНЦОЎ.**

## ВІЛЬНЯ АБ'ЯДНАЛА БЕЛАРУСАЎ КРАІН БАЛТЫІ

**У Вільні адбыўся першы з'езд беларусаў краін Балтыі. Удзел у ім узяло звыш 100 прадстаўнікоў беларускіх суполак з Латвіі, Летувы, Эстоніі й Беларусі. Імпрэза была арганізавана дзякуючы намаганьням Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" й Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве.**

З'езд адкрыўся Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь у выкананьні вядомага сьпевака Лявона Мурашкі. Пасьля кароткіх прывітаньняў і ўрачыстага канцэрту, у якім прынялі ўдзел асьпірантка Летувіскай музычнай акадэміі Натальля Нарэйка, оперны сьпявак Лявон Мурашка, канцэртмайстар тэатра опэры й балету Галіна Знайдзілоўская, паэты Тацьцяна Сабач, Алег Мінкін і Любоў Цімохіна, дэлегаты прыступілі да працы.

Прадстаўніца Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" Ніна Пятухова сказала, што амаль 2 мільёны беларусаў жывуць цяпер у рэспубліках былога Саюза. Многія з іх, асабліва маладое пакаленьне, ужо толькі этнічна лічаць сябе беларусамі - ня ведаюць сваіх каранёў, традыцый, культуры свайго народа.

Але працэс адраджэньня набірае сілу. Пачуць гэта можна было практычна ва ўсіх выступленьнях дэлегатаў. Прадстаўніцы беларусаў Эстоніі (таварыства беларускай культуры ў Кохтла-Ярвэ) Маргарыта Астравумава й Вольга Балавашкіна расказалі пра прыхільнае стаўленне ўладаў гэтай дзяржавы да нацыянальных меншасьцяў, якія дбаюць пра сваю культуру, памятаюць гісторыю народа, не забываюць родную мову. Каб падтрымаць гэтыя працэсы, у Эстоніі рыхтуецца юрыдычнае палажэньне аб культурнай аўтаноміі меншасьцяў. Мяркуецца, што гэта дапаможа ім аддзяліцца ад расейскамоўнай масы, манаполію на абарону якой узяла на сябе Расея, выкарыстоўваючы гэта часта ў палітычных мэтах. Прамоўцы казалі, што на канцэрты, народныя сьвяты прыходзяць і эстонцы. На жаль, у Эстоніі не даходзяць газеты й часопісы, што друкуюцца на Беларусі, няма там і беларускай школы, хоць спробы яе стварэньня ўжо прадпрымаліся.

Дэлегат з Латвіі, прадстаўнік Таварыства беларусаў "Уздым" у Дынебургу пазайздросьціў сваім суродзічам, якія жывуць у Летуве. Галоўная праблема для беларусаў гэтай краіны - гэта бар'ер, створаны прынятым законам аб грамадзянстве, які перашкаджае 120 тысячам беларусаў узяць латвійскае грамадзянства.

Старшыня Таварыства беларускай мовы "Праметэй" у Рызе Алесь Карповіч паведаміў, што ў іх дагэтуль няма ўласнага будынку. Уся бяда ў адсутнасьці грошай. Але есьць энтузіязм і вера ў сваю справу - а гэта ўжо вельмі шмат.

На фоне агульных памяркоўных наракаНьняў зусім добра выглядалі справы ў віленскіх беларусаў. У іх ёсьць беларускія клясы, а з новага навучальнага года будзе й школа. Плануецца адчыніць школы таксама ў Салечніках і Вісагінасе. Менавіта пра гэта паведаміла дырэктар школы, старшыня Таварыства беларускай школы ў Летуве Лілея Плыгаўка. Трэці год вядзецца выкладаньне беларусскай мовы ў Віленскім педагагічным унівэрсітэце. У Вільні выходзіць "Наша Ніва". Штотыднёвая беларуская старонка ёсьць таксама ў газэце "Эхо Литвы". Беларусы Віленшчыны могуць слухаць і глядзець свае рэгулярныя радыё- й тэлеперадачы. Такім чынам было пра што паведаміць, падзяліцца думкамі.

Прадстаўнік беларусаў з Вісагінаса - горада ігналінскіх атамшчыкаў - выказаў меркаваньне, што ўсе беларускія арганізацыі, якія дзейнічаюць у краінах Балтыі, стануць мастом лучнасці між краінамі дзе жывуць й Бацькаўшчынай.

Дэлегаты з'езду прынялі рэзалюцыю й зварот да прэзідэнта А.Лукашэнкі.

Вырашана, што такія спатканьні будуць адбывацца што два гады. Наступнае адбудзецца ў Салечніках.

Дэлегаты з'езду ўдзельнічалі ў адкрыцьці новай мемарыяльнай дошкі Янкі Купалы на сьцяне дома нумар 14 па вуліцы Віленскай, дзе месьцілася рэдакцыя "Нашай Нівы", якую песьняр узначальваў у 1914-1915 г.г. Кветкі былі ўскладзены на магілах дзеячоў беларускай культуры Івана й Антона Луцкевічаў, Алаізы Пашкевіч (Цёткі) і іншых, пахаваных на віленскіх могілках Роса.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыцьцё мемарыяльнай дошкі, якую зрабілі па праекту менскага скульптара А.Міронычыка.**

**Фатаграфаваў Віктар ЖАРНАСЕКАЎ.**



## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Падчас сустрэчы ў Луцку прэм'ер-міністраў Польшчы й Украіны В.Паўляк і В.Масол абмеркавалі сытуацыю пэрспэктыў разьвіцця польска-украінскіх адносінаў, асабліва ў галіне гаспадарчага супрацоўніцтва.

Кіраўнікі урадаў абедзьвух дзяржаў вылучылі наступныя прыярытэты: сельская гаспадарка і перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі, машынабудаваньне, ваенная прамысловасьць, фармацэўтыка, хімічная і мэталургічная прамысловасьці.

❒

Прадстаўнікі Саюза палякаў Беларусі наведалі Беласток, дзе сустрэліся з кіраўнікамі адміністрацыйных і культурных устаноў. У ходзе перамоў абмяркоўваліся магчымасьці пашырэньня супрацоўніцтва ў галіне культуры і павелічэньня дапамогі Саюзу палякаў.

Гарадзенскія госьці выказалі зацікаўленасьць у прафэсійнай апецы над рознымі калектывамі (на Гарадзеншчыне каля 30 польскіх калектываў) і культурнымі ўстановамі.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў правёў у Вільні перагаворы з Прэзідэнтам Летувы Альгірдасам Бразаўскасам. Пад час візыта дэлегацыі падпісалі некалькі дагавораў. У прыватнасьці, аб прававой узаемадапамозе. Вельмі важным было падпісаньне пратакола аб выкарыстаньні летувіскага порта Клайпэда для перапрацоўкі казахстанскіх грузаў.

❒

У Вільні адкрыўся культурны цэнтр ЗША. У ім можна атрымаць любую інфармацыю, якая датычыцца Амерыкі. Яго кніжны фонд налічвае 2,5 тысячы кніг па гісторыі ЗША, паліталогіі, эканоміцы, іншым сферам навукі й тэхнікі, а таксама мастацкую літаратуру, альбомы па мастацтву. На камп'ютарных лазерных дысках сабрана калекцыя 250 перыядычных выданьняў апошніх пяці гадоў.

**МГ**



ПАДАРОЖЖЫ

# БЕЛАРУСКІ ГОЛАС НА ВАРШАЎСКАЙ ХВАЛІ

**(Заканчэньне. Пачатак у N 28)**

Побач з беларускай рэдакцыяй знаходзіцца ўкраінская й летувіская, а яшчэ далей - нямецкая й ангельская. Цікава назіраць, калі нехта загляне ў габінэт і хутка аб нечым гаворыць па-украінску. Аднак тут гэта норма - усе, на дзіва, добра разумеюць адзін аднаго.

На Украіне таксама выбары, адчуваецца, як хвалююцца калегі з суседняй рэдакцыі. А праз два дні ў Польшчу прыляціць прэзыдэнт ЗША, аб гэтым толькі й гавораць у тэлевізары.

Пасьля працы мы паедзем у госьці да беларускіх студэнтаў у інтэрнат. Большасьцю яны паходзяць з Беласточчыны. Усе гавораць па-беларуску й шчыра па-беларуску сустракаюць. Узгадваю свае студэнцкія гады і ўмовы у якіх жыў. Канешне, з іхнімі не параўнаць.

Мы зноў і зноў гаворым пра Беларусь, пра выбары, пра Пазьняка. Нехта нават пытаецца, а што будзе ў Беларусі, калі да ўлады дарвецца дырэктар саўгаса, альбо й надалей застанецца Кебіч. І нягледзячы на нашую вясёлую аптымістычную размову, адна дзяўчына заўважае, што беларусы як нацыя ў Польшчы ўжо зьнікаюць. Застаюцца толькі адзінкавыя асобы, а дзяржава Беларусь гэтым нават і не цікавіцца. І толькі маленькі коцік увесь час не зыходзіць з маіх рук, далікатна кусае іх і патрабуе ўвагі. Ён таксама ўсё разумее па-беларуску, але ж вельмі хочацца яму пашалець.

На разьвітаньне хлопцы вядуць мяне за інтэрнат, каб паказаць адну цікавостку. На белай цаглянай сьцяне вялікімі літарамі зроблены надпіс: “Няхай жыве Беларусь!”

У такой маладой і прыемнай кампаніі час праляцеў незаўважна. Я вяртаюся да сябе ў школку, задаволены сустрэчай. Нехта ўжо сьпіць, кагосьці яшчэ няма, а я апавядаю сваім спадарожнікам аб тым, што бачыў, праўда, ня ўсім гэта цікава.

Праз дзень я зноў на радыё. Мы сабраліся паглядзець горад і наведаць Юры Туронка, каб узяць у яго інтэрв’ю. У рэдакцыі толькі Валодзя, ён сумны і нечым вельмі занепакоены.

ПАП перадало, што з учарашняга вечара ў Менску і ва ўсіх вабласных будынках радыё й тэлебачаньня ўведзена дадатковая ахова з войскаў МУС. Матывуецца гэта тым, быццам была спроба ўзарваць бомбу на менскім тэлебачаньні. Аднак камэнтатары з усяго сьвету перадаюць, што гэта першы крок да ўвядзеньня ваеннага становішча.

Карціць у горле, вочы набухаюць сьлязьмі, я таксама маўчу. Няўжо гэта будзе...

Мы набіраем па тэлефону Менск. Адказвае знаёмы прыемны голас: сьпякотна й сумна, на выбары ня пойдзем, ня хочам. І больш ніякіх навін з Менску.

- А што ў тэлевізары?

- Нейкая сумная музыка, а зараз кіно пра вайну.

У нас, як заўсёды, ніхто ні аб чым ня ведае, ніхто нават не падазравае, што можа адбыцца ў тваёй невялікай краіне.

Валодзя кажа, што павінен тэрмінова выехаць у Менск, яму звоняць з аднае варшаўскае газэты й таксама заказваюць матэрыялы з Беларусі. Чакаюцца сэнсацыі.

Да цягніка застаецца трохі меней, як дзьве гадзіны. Мы едзем на вакзал, купляем білет і сякія-такія рэчы ў дарогу, паколькі часу ўжо на тое, каб заехаць дамоў, не застаецца. Дзякуй Богу, што ў Польшчы ўжо не існуе праблемы адразу на вакзале набыць кашулю, швэдар, лёзы і ўсё неабходнае чалавеку ў дарогу.

Валодзя ад’яжджае цягнікам Варшава - Полацак у 19.12, а яшчэ праз некалькі хвілін я ўзгадаю, што нічога так і не сказаў яму на разьвітаньне.

У той вечар не захочацца адразу ісьці ў школу. Я паблукаю па Варшаве, вып’ю кавы ў маленькай кавярні і ўсьміхнуся на разьвітаньне вясёламу кельнеру.

Нашыя дзеткі чамусьці доўга ня будуць спаць, з пакоя даносіцца голас польскага камэнтатара - сёньня ўжо паўфінальныя матчы ў Амэрыцы.



Заўтра я павінен буду з самай раніцы ехаць на радыё й працаваць, паколькі ў рэдакцыі засталося толькі два чалавекі, астатнія ў адпачынках. А перад сном яшчэ раз асэнсую мінуўшы дзень, яшчэ раз зьдзіўлюся жыцьцю: якія ўсё ж дзіўныя рэчы яно падчас вырабляе. Валодзя ад’ехаў у Беларусь, дзе невядома што можа адбыцца ў любы час, а я застаўся тут, у Польшчы, каб вяшчаць беларусам, чым жыве Польшча.

Дзіўная рэч: у Варшаве праліўны дождж. Нават цяжка сабе ўявіць сярод такой сьпёкі і такі прыемны прахалодны дождж. На вуліцах не шматлюдна, часам сустракаюцца ўжо падпітыя мужчыны без парасонаў - ім усё роўна.

Нейкая маладая дзяўчына, што сядзіць за сьпінай у аўтобусе, напявае ціхенька: “Yesterday...” Мне добра чуваць, я баюся адвярнуцца. Напэўна, яна шчасьлівая, а, можа, папросту радуецца гэтаму дажджу.

Ужо ў дзесяць гадзін раніцы ў рэдакцыі я чытаю сьвежыя газэты й шукаю інфармацыю з Беларусі. Апошнія паведамленьні ў “Gazete Wyborczaj” аб учарашніх тэлевізыйных дэбатах Кебіча й Лукашэнкі. Адзін загаловак гаворыць за ўсё: “Хто болей любіць Расею?” Яшчэ часопіс, і зноў трапны загаловак: “Шэрая Беларусь.” Тут у Польшчы я добра разумею, якая яна ўсё ж шэрая ,і не магу не пагадзіцца з аўтарам, як бы гэтага не хацелася.

У першы дзень я нават не пасьпею нагрэць сабе кавы, толькі зрэдку буду адрываць позірк на вакно, па якім няспынна цыбаніць дождж, і, з’яжджаючы ў ліфце, дапішу апошнія радкі. А ў студыі, дзе апынуся ўпершыню ў жыцьці й адчую, што буду гаварыць для многіх беларусаў у сьвеце, захвалююся і ўзгадаю пані Малгажату з другой польскай тэлевізыйнай праграмы.

А маё хваляваньне разьвее Ніна Баршчэўская. З ёй сапраўды вельмі лёгка й прыемна працаваць. Яна тактоўны й уважлівы чалавек. Увогуле потым я зразумею, што гэта былі мае самыя шчасьлівыя дні ў Польшчы.

Заўтра патэлефануе Валодзя з Менску й скажа, што ў нас ўсё на дзіва спакойна, але ёсьць яшчэ адна ноч, і ня выключана, што Кебіч можа ўтварыць нечаканае, а адзінаццацімільённае насельніцтва Беларусі ні аб чым дагэтуль нават і не здагадваецца.

На другі дзень зноў будзе ліць дождж. Гэтым разам я хутчэй пасьпею падрыхтаваць матэрыялы, завару кавы й буду думаць, гледзячы ў вакно, што, напэўна, у Горадні таксама радуюцца дажджу. А для беларусаў са студыі паведамлю, што памёр Кім Ір Сэн, і войскі абедзьвюх Карэй стаяць на мяжы ў павышанай баявой гатоўнасьці.

З раніцы, у нядзелю, пасьнедаўшы, я зноў хуценька сабяруся й пабягу на трамвай. Паеду шукаць нашае пасольства, праўда, ізноў адзін. У нашых выхавацелек зьменяцца пляны, хоць раней мы зьбіраліся разам. Урэшце яны скажуць, што за гэтых кандыдатаў галасаваць няма сэнсу.

Пасольства я знайду хутка, дапаможа выпадковы чалавек. Ён давядзе мяне да самога будынку, а я, калі пабачу наш сьцяг, адразу забудуся на свайго памагатага. Праўда, усё ж перад самой брамай здагадаюся падзякаваць і спрэзэнтую чалавеку аднаго нашага “зайчыка”, “бабра” і “ваўка”, больш нічога пры сабе ня будзе. А на памяць дастану маленькую кніжачку з эратычнымі анекдотамі.

Назаўтра з раніцы, раней, чым звычайна, прыбяжыць наш пан кіроўнік і ўжо адразу з дзьвярэй паведаміць, што ў Беларусі прэзыдэнтам абралі дырэктара саўгаса. Ён ўпершыню гэтыя словы скажа з нейкім жалем, а потым яшчэ, каб супакоіць нас, дадасьць, што затое ня будзе больш камуніста-бальшавіка Кебіча. Мы разам пасьмяёмся, але нічога ня скажам аб тым, што цэлую ноч у дырэктарскім габінэце слухалі радыё й ведаем усе навіны з Беларусі.

Яшчэ раз перачытваю свае нататкі. Яны вялікія і ў іх амаль нічога аб Варшаве. Думаю, чаму так? Хоць перад вачыма й зараз стаіць гэты прыгожы горад, у якім нават у сьпёку зялёная, акуратна падстрыжаная трава, на кожным кроку кавярні, піўныя бары з ахалоджаным півам, прычым, па дзесяць-пятнаццаць гатункаў. А на сумным помніку Каперніку, якраз на галавае, нехта пакінуў пустую пляшку ад віна. У Лазенках пад старымі прыгожымі дрэвамі прахалодна, на маленькім востраве іграе сымфанічны аркэстар, а ў Вялікім тэатры ідзе пецярбургскі балет. На пляцы каля Вечнага агню шмат маладых людзей, якія катаюцца на ролікавых каньках. Напэўна, гэта модна. У Старуўцы мноства турыстаў, можна пачуць самыя розныя мовы сьвету. Тут вельмі прыгожыя карціны і такія, што табе падабаюцца. Каштуюць усяго трыццаць даляраў, якіх, на жаль, няма. Паўсюдна музыканты. Адзін румын спыніў мяне каля іх. Яны ігралі Паланэз Агінскага. Ён запытаўся, ці ня ведаю я, што гэта за музыка і хто кампазытар, на што я адказаў па-нямецку: “Abschieds mit Heimats.Michael Aginski.”

Распавядаў яму, што гэты кампазытар мой зямляк і я яго таксама вельмі люблю. Румын потым яшчэ доўга цікавіўся Беларусьсю і на дыскатэцы ўвечары ўвесь час танцаваў з нашымі дзяўчатамі.

У Старуўцы я сустрэў Ігара Бабкова з Менску, мы мала знаёмыя, але было вельмі прыемна. Найпрыгажэй у Старуўцы вечарам, калі спадзе сьпёка. Такое ўражаньне, што сюды прыходзіць увесь горад.

Каля рэзыдэнцыі Леха Валэнсы стаіць сталая жанчына з плякатамі й пратэстуе супраць улады прэзыдэнта. Яна дамагаецца ўжо тры гады сваіх правоў і лічыць, што ў Польшчы няма аніякай дэмакратыі.

У Варшаве шыкоўныя гатэлі й рэстарацыі. З “Марыёта” добра відаць панараму Варшавы, але самы высокі будынак і дагэтуль - Палац Культуры й навукі.

Каля гатэля “Holliday” сустракаем дэпутата з беларускага парлямэнту. Ён вядзе нейкую дзелавую гаворку з палякам. Кожны гаворыць на сваёй мове і па ўсім відаць, што яны добра разумеюць адзін аднаго. Мы, вядома, не перашкаджаем, ідзём далей.

На вуліцы ўвечары нас запыняюць хлопцы з Галяндыі і найперш пытаюцца, ці гаворым мы па-ангельску. Сярод нас няма знаўцаў гэтае мовы. Мы адказваем па-нямецку, што іх вельмі задавальняе. Яны шукаюць дыскатэку. Мы тлумачым, што прыехалі з Беларусі й ня вельмі пакуль тут арыентуемся. Галяндцы не дачулі й перапытваюць: “Rusisch?”"Nein,Belarus." Іх гэта чамусьці вельмі ўзрадавала, яны цёпла ціснуць нам рукі й паўтараюць: “ Belarus, Belarus, gut! ”

Увогуле прыемна, што ў Польшчы людзі вельмі часта ўсьміхаюцца, добразычліва тлумачаць, як куды прайсьці ці даехаць. Праўда, адна бабуля зрабіла нашай дзяўчыне заўвагу, калі тая басаног ішла па траве, бо новымі туфлямі нацерла сабе ногі. Старая крычала, што ў Польшчы ня ходзяць па траве, і што мы стапталі ўжо ўсю Польшчу і ўсю Варшаву.

У гэтай краіне шмат розных кантрастаў. Кідаецца ў вочы, што ў горадзе за цэлы дзень не сустрэнеш дзяўчыну, якая была б убрана, як хто-небудзь іншы на вуліцы. Да таго, яны вельмі стройныя і, напэўна, шмат часу адводзяць на тое, каб даглядаць за сваёй зьнешнасьцю. Хоць на першы погляд выглядаюць даволі сьціпла й проста.

У апошні дзень мяне аклікнула на вуліцы незнаёмая дзяўчына па-расейску, маўляла, што ты робіш у Варшаве? Я ведаю, што яна з Горадні, памятаю гэты твар, але ніколі ня быў знаёмы й нават зараз ня ведаю, як яе называць. Усё ж было прыемна. І калі, шаноўная, чытаеце нашую газэту, то гэта быў я.

Палякі ганарацца тым, што яны зараз маюць, але толькі перад намі. І ўсё ж жыцьцё іх значна адрозьніваецца ад нашага й дасягалі яны гэтага самі. І збудавана яно ўжо так, што лёс усяго народа практычна не залежыць ад волі якога-небудзь аднаго палітыка, якому раптам захацелася б што-небудзь значна зьмяніць. Іх эканоміка выйшла на нармальны рынак, дзе кіруюць рынычныя законы, а не амбіцыі асобных кіраўнікоў.

На вакзале, калі ад’яжджалі, нехта нават плакаў. Нашых дзетак прыйшлі праважаць іх новыя сябры. Яны абмяняліся адрасамі й спадзяюцца, што на наступны год зноў сустрэнуцца.

Чамусьці дарога назад здаецца значна карацейшай. І радасна, і сумна. Пераехаўшы мяжу, на нашым баку я запытаў у адной нашай дзяўчыны, чаму палякі жывуць лепей, чым мы. Яна, не задумваючыся, адказала: “Таму што ў Польшчы няма камуністаў”.

У кватэры няма гарачай вады. Трава на газонах не падстрыжаная, пасохла. Непрыгожа. У горадзе сумныя твары, пустыя паліцы ў крамах. Мы зноў у Беларусі.

**М.КАРНЕВІЧ.**

**Фатаграфаваў аўтар.**

**Гатэль “Марыёт” адзін з самых фешэнэбельных у Варшаве...**



**Мастак у Старым горадзе**



**Прыватная крама**




**Нехта пакінуў пустую пляшку на галаве ў Каперніка**







# СУСТРЭЧА НАД СЬВІЦЯЗЬЗЮ

**Тры сонечныя дні, праведзеныя ўдзельнікамі канфэрэнцыі ў сьвіцязянскім рэгіёне, - гэта незабыўныя ўспаміны й спатканьні. Гэта жывы дыялёг нашчадкаў на зямлі Беларусі з сваім славутым паэтам-ліцьвінам Адамам Міцкевічам. Ускалыханы Навагрудчынай, ён сваімі творамі і публіцыстычнай дзейнасьцю заклаў той каштоўны пласт культуры, маралі і этыкі, які і сёньня яднае нас - беларусаў, палякаў, літоўцаў, расейцаў, украінцаў, габрэяў, татараў ды інш. Вось чаму адначасова з мовай польскай пачэсна гучалі беларуская, расейская.**

Першы дзень быў прысьвечаны разгляду навуковых рэфэратаў: "Беларуска-польскія культурныя сувязі на старонках часопіса "Сьвіцязь" (праф.Сяргей Габрусевіч, Горадня); "Палонія амэрыканская і адраджэньне на Беларусі польскай культурнай спадчыны" (праф. Барыс Клейн, ЗША); "Аб неабходнасьці стварэньня гісторыка-гэаграфічнага слоўніка мясцін памяці Міцкевіча" (д-р Алі Міськевіч, Польшча); "Беларускія першаэлемэнты ў паэзіі А.Міцкевіча (д-р Мечыслаў Яскевіч, Польшча); "Тадэвуш Касьцюшка ля вытокаў сучасных дэмакратый" (праф. Клара Рукшына, Менск); Цікавыя думкі выказаў праф.Станіслаў Макоўскі ў рэфэраце "Міцкевічаўскі вобраз "Дзядоў" у "Крулю-Духаў" Юліюша Славацкага". Усяго прадстаўлена каля 30 рэфэратаў, пераважна гасьцямі з Польшчы.

Аўтар гэтых радкоў прапанаваў удзельнікам тэму "Сьвет інтымных пачуцьцяў у паэзіі Міцкевіча і Купалы" і ён перакананы, што настаў момант па-новаму прачытаць неўміручую спадчыну Міцкевіча і Купалы з мэтай пошуку больш рацыянальных падыходаў у высьвятленьні польска-беларускіх літаратурна-этнічных узаемасувязяў і кантактаў. Гэтыя творы сімвалізуюць повязь ня толькі духоўную, але й генэтычную, абумоўленую касьмічным уплывам, мала вывучаную. Вось некалькі штрыхоў гэтай на дзіва цікавай повязі. Па-першае, прамацi Прырода вельмі загадкава спланавала зьяўленьне абодвух паэтаў на сьвет. Адам зьявіўся ў самую доўгую сьнежаньскую ноч, на калядную куцьцю, вігілію. Янка свае народзіны засьведчыў у самую кароткую ноч чэрвеня, калі зацьвітае кветка людзкога шчасьця, лясная папараць. Цыклавым сутыкненьнем сонцадзенства Прырода адкрыла фэномен духу нашага народа - Міцкевіча й Купалу. Факт, што яны сыны адной зямелькі, якая завецца Навагрудзка-Радашковіцкім памежжам, гаворыць сам за сябе. Іх біялагічныя і сацыяльныя пачаткі фармаваліся менавіта тут, у Завосьсі і Вязынцы. Характар этнагэнэзу Міцкевіча і Купалы афарбаваны малюнкамі Віліі і Нёмана. Як кажуць, Бог не паскупіўся, абодвум даў вялікі розум, вонкавую прыгажосьць і талент. Надзяліў песенным дарам, тонкім музычным слыхам (Міцкевіч іграў ахвотна на друмлі, Купала - на жалейцы і скрыпцы). Яны пасланцы шчасьця. Але ці былі шчасьлівымі Маэстры?

Трэба скінуць вэлюм хлусьні і сказаць праўду, што Міцкевіч і Купала былі пазбаўлены законнага права на грамадзянскае жыцьцё і сьмерць. Выпадкова ці не, але іх забойства якраз прыпадае на той самы тыдзень, калі яны нарадзіліся. Міцкевіча атруцілі ў Істамбуле, Купалу скінулі з дзесятага паверху ў гатэлі "Масква". Злачынства зьдзейснена польскай эміграцкай элітай з Францыі, лідэрам якой быў князь Чартарыйскі. Купалу пазбавілі жыцьця спэцслужбы КДБ.

Зямля Беларусі запланавала й адкрыла чалавецтву сваіх сыноў як найздатнейшую праяву людзкасьці, але зайздросныя суайчыньнікі гвалтоўна абарвалі іх фізічнае жыцьцё. Тым ня менш, духоўная повязь пабрацімаў сёньня вельмі актуальная і каштоўная. Міцкевіч марыў, што яго вершы дойдуць пад сялянскія стрэхі і іх запяюць вясковыя дзяўчаты, бо ў салёнах яго паэзіі не прызнавалі. З XIX стагоддзя Міцкевіч прароча вітаў свайго тады яшчэ невядомага брата па пяру. І вось гэты другі аўтарытэтна, як эстафету, прыняў мару свайго земляка, працягнуў руку вітаньня ў XX стагоддзе. Ім стаў не хто іншы, як Купала.

Працягвалася канфэрэнцыя другі і трэці дзень - гэта наведваньне музея паэта ў Навагрудку, знаёмства з шляхам Міцкевіча, ускладаньне кветак на магілу Марылі (пані Путкамер), агляд касьцёла ў Беняконях, гая Марылі з памятным каменем.

Мясцовы паэт Міхась Валасевіч зачараваў гасьцей цудоўнымі вершамі, прысьвечанымі каханьню Марылі і Адама. Чытаў ён іх натхнёна і па-польску, і па-беларуску. І тут спакваля падумалася пра купалаўскае, што Міцкевіч - "вечна жывая паэзія".

Скончылася "Сустрэча над Сьвіцязьзю" у гасьцінным домiку Элізы Ажэшкі ў Горадні.

Арганізатарамі гэтай цікавай імпрэзы былі Камітэт памяці Міцкевіча, Саюз палякаў Беларусі, гарадзенскі аддзел Беларускага фонда культуры. Чынны ўдзел у ажыцьцяўленьні праграмы прынялі мясцовыя ўлады Навагрудка і арганізацыі з Ліды, Воранава, Беняконяў - прыхільнікі сьвяткаваньня 200-годдзя з дня нараджэньня Міцкевіча.

**Сяргей ДРОЗД,**
**сябра Рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**



## РУЙНАВАЦЬ - НЕ БУДАВАЦЬ

Год пяць таму ў скверы, што месьціцца ў Горадні між рачным тэхнічным нучасткам й рачным портам, былі ўстаноўлены скульптуры, высечаныя з дуба. Памятаю, што мастакі працавалі над прывезенымі кавалкамі дрэва па некалькі тыдняў, каб надаць ім выгляд твораў мастацтва.

Зараз тое, што вабіла вока прыгажосьцю, зруйнавана вандаламі.

**На здымку: так выглядаюць творы мастацтва ў скверы над Нёманам.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

## У ШЭФІЛДЗЕ НА БЕЛАРУСАЎ НІХТО НЕ «СТАВІЎ»

Сабраны медаль у асабістым турніры сярод жанчын і камандная "бронза" у мужчынскіх спаборніцтвах - такі вынік выступленьня беларускіх спартсмэнаў на чэмпіянаце сьвету па сучаснаму пяцібор'ю.

Гамяльчанка Жана Шубянок, якая вярнулася ў вялікі спорт пасьля нараджэньня сына, у Шэфілдзе паказала ўсе свае найлепшыя якасьці. І нават магла стаць уладальніцай залатога медаля, але не хапіла нязначнай колькасьці ачкоў у апошніх відах праграмы. Андрэй Смірноў, Сяргей Коршун і Аляксандр Барысенка, якія складалі мужчынскую каманду, таксама выступілі вельмі ўдала, заняўшы трэцяе месца.

На жаль, у эстафеце справы ў хлопцаў не заладзіліся. У стральбе беларусы цэліліся пераважна ў "малако" і фінішавалі толькі дзесятымі. Плаваньне, фехтаваньне, верхавая язда і крос не зьмянілі сітуацыю. У выніку - дзевятае месца. А чэмпіёнамі сьвету ў гэтых дысцыплінах сталі галоўныя фаварыты - венгры, далей - палякі й расейцы.

## ЛІДЭРА ЗМОГ СПЫНІЦЬ ТОЛЬКІ АЎТСАЙДЭР

Нацыянальная зборная Беларусі ў таварыскай сустрэчы з першай зборнай Польшчы (матч адбыўся ў Радоме) згуляла ўнічыю 1:1. Гол у адказ забіў на 37-ай хвіліне Вяргейчык. А днём раней ў Аночна спаборнічалі алімпійскія дружыны краін. Тут перамогу з лікам 1:0 атрымалі беларускія футбалісты (Богуш, аўтагол, 42-я хвіліна).

Нягледзячы на гульні зборных, без антракту працягваецца першынство Беларусі.

Сенсацыя мінулага тура ў першай футбольнай лізе: віцебскі КІМ, які дагэтуль перамагаў у пяці матчах, згубіў ачко ў хатняй сустрэчы з берасьцейскім "Дынама". Гаспадары аднавілі раўнавагу ў ліку на апошніх хвілінах гульні,рэалізаваўшы 11-мятровы. Нічыя (0:0) зафіксавана і ў матчы менскага "Тарпеда" з бабруйскім "Фандокам". І калі першыя тры каманды збавілі ход, то чэмпіён - менскае "Дынама" - зрабіў крок наперад, з буйным лікам (6:1) выйграўшы ў віцебскага "Лакаматыву".

У шасьцёрку мацнейшых таксама ўваходзяць "Абутнік" і "Гомсельмаш". Лідзкі клуб дабіўся чарговай перамогі - над салігорскім "Шахцёрам" (1:0), а каманда з горада над Сожам "патапіла" гарадзенскі "Нёман" (1:0). Працягвае каціцца ўніз рэчыцкі "Ведрыч", які ў Магілёве прайграў мясцоваму "Тарпеда" (0:1). Вось вынікі астатніх сустрэч шостага тура: "Дынама-93" (Менск) - "Маладзечна" - 3:1; "Дняпро" (Магілёў) - "Шыньнік" (Бабруйск) - 2:0.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**Мінулы тыдзень выдаўся непадобным на іншыя. На шчасьце, не зарэгістравана ніводнай чалавечай ахвяры. Аднак колькасьць злачынстваў не зьмянілася. Усяго іх учынена 159, у тым ліку 16 цялесных пашкоджаньняў, 2 рабаваньні, 104 крадзяжы і адно згвалтаваньне.**

**У 24 дарожных аварыях 2 чалавекі загінулі, 27 - атрымалі раненьні. Два дарожна-транспартныя здарэньні ўчынены нецьвярозымі вадзіцелямі.**

**У перадвыхадныя і ў выхадныя дні ў вобласьці праведзена праваахоўчая апэрацыя "Правапарадак", у ходзе якой у Горадні і другіх населеных пунктах правяраліся гатэлі, рэстарацыі, базы, склады, крамы і іншыя месцы.**

**Падчас апэрацыі амаль 400 грамадзян былі затрыманы за дробнае хуліганства, 620 - за распіцьцё сьпіртных напояў у грамадзкіх месцах і зьяўленьне на вуліцах у нецьвярозым стане, 83 - за выраб і набыцьцё самагону.**

**За тры дні канфіскавана 19 адзінак вогнестрэльнай зброі і 42 боепрыпаса.**

**Адначасова на дарогах вобласьці было праверана 6146 аўтамабіляў. Пры гэтым выяўлены 1684 парушэньні правілаў дарожнага руху, у 133 выпадках вадзіцелі сядзелі за рулём у нецьвярозым стане.**

**Усяго ж было раскрыта 65 злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку, выяўлены 94 эканамічныя злачынствы і 141 адміністрацыйнае правапарушэньне ў гэтай сфэры.**

Не сакрэт, што кошт аднаго лабавога шкла з іншамаркі даходзіць да 200 даляраў, а гэта складае паўгадавы заробак грамадзяніна Беларусі. Менавіта гэтыя абставіны, а таксама дэфіцыт выклікалі прыкметны ўсплёск такіх крадзяжоў. Вось хроніка толькі двух выхадных сутак.

У суботнюю ноч непашанцавала адразу траім уладальнікам "Аўдзі": легкавікі стаялі ў дварах дамоў на вуліцах Паповіча і Лідзкай. Праз суткі на вуліцы Кабяка і плошчы Дзекабрыстаў шкло зьнялі ўжо з двух "Фальксвагенаў". Апошнімі днямі і ў Шчучыне зьнялі шкло з двух "Опеляў".

Відаць дзейнічаюць злодзеі-прафесіяналы і, напэўна, па заказу.

❐

Адсутнасьць на запраўках бэнзіну таксама выклікала павелічэньне крадзяжоў паліва. За тыдзень іх учынена ажно шэсьць. 1500 літраў бэнзіну скрадзена са складу ГЗМ калгаса "Сьвітанак" Зэльвенскага раёна. Злодзей затрыманы і знаходзіцца за кратамі. Ім аказаўся качагар аднаго з калгасаў Лідзкага раёна.

❐

У Берастаўіцы вадзіцель бензавоза з райспажыўсаюза "зэканоміў" 110 літраў А-76, але "прыватызаваць" паліва яму перашкодзіла міліцыя, як, дарэчы, і трактарысту торфазавода "Ашмянскі", які "выдаіў" з "жалезнага каня" 120 літраў саляркі.

❐

У апошні час узбуджаны дзьве крымінальныя справы і супраць некаторых супрацоўнікаў гарадзенскай нафтабазы, якія так сама вялікія "майстры" адпампаваць з ёмістасьцей паліва і сьлізнуць яго "налева".

❐

Зусім нягасьцінна абыйшоўся невядомы злачынец у прыбіральні казіно гатэля "Турыст" з галяндцам - 47-гадовым вадзіцелям замежнай фірмы. У выніку, іншаземец з чэрапна-мазгавой траўмай і без 40 тысяч беларускіх рублёў і 20 нямецкіх марак апынуўся ў шпіталі.

Злачынца затрыманы. Устаноўлена, што ён быў раней судзімы.

**І.ДАНІЛОВІЧ.**

# УВАГА - ДЗЕЦІ!

Сканчаюцца летнія вакацыі ў дзяцей, днямі пачынаецца новы навучальны год. За гэтыя тры месяцы шмат хто з дзетак адвык ад інтэнсіўнага вулічнага руху і нават страціў пільнасьць у паводзінах на вуліцах горада. Таму менавіта зараз вельмі важна нагадаць нашым дзеткам правілы дарожнага руху. На вялікі жаль, толькі за гэты год у Гарадзенскай вобласьці адбылося 76 дарожна-транспартных здарэньняў, у якіх 5 дзяцей загінула і 73 атрымалі розныя раненьні.

"Увага - дзеці!" - пад такім дэвізам у Беларусі з 20 жніўня па 10 верасьня праводзіцца дарожны рэйд, прымеркаваны да пачатку навучальнага года ў школах. "Увага - дзеці!" - гэты заклік найперш для вадзіцеляў.

2 жніўня, днём вадзіцель ГАЗ-24 наехаў на вучня 6-клясы г.Горадні. "Набліжаючагася аўтамабіля я не заўважыў", - так адказаў непаўналетні Дзіма. Дарэчы, такія тлумачэньні ад дзяцей даводзіцца чуць часьцей за ўсё. Канешне, найперш павінны быць уважлівымі вадзіцелі. Заўважыўшы на вуліцы дзяцей, падлеткаў, ім неабходна ацэньваць іх намеры.

Бацькам малодшых школьнікаў неабходна ў першую чаргу паказаць бясьпечны маршрут у школу. Зрабіць гэта неабходна разам з дзяцьмі.

Сёньня дарэчы пагаварыць аб тым, як арганізаваць навучаньне дзяцей правілам дарожнага руху ў школах, дзіцячых дашкольных установах. Ніхто не застрахаваны ад няшчасных выпадкаў на вуліцы і дарогах, і ўсё ж там, дзе навучаньню дзяцей дарожным правілам надаецца ўвага, ёсьць і станоўчыя вынікі. Добра пастаўлена работа па папярэджаньню дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызма ў дзіцячых садках N 5 і N 79, а таксама ў сярэдніх школах N 5 і N 16 Горадні.

У першыя дні дыслакацыя нарадаў ДАІ ў гарадах і раёнах перамесьціцца да школ, якія знаходзяцца побач з дарогамі.

Апэрацыя "Увага - дзеці!" - гэта пачатак вялікай работы на поўны навучальны год і далейшы час. Толькі агульнымі сумеснымі намаганьнямі можна дамагчыся станоўчых вынікаў для бясьпекі дзяцей на вуліцах і дарогах.

**Г.БАРАДЗІН,**
**старэйшы інспектар ДАІ Гарадзенскага аблвыканкама.**





**"ПАГОНЯ"**
**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**
**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры перадруку спасылка абавязкова.**
**Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 3369.
Тыраж 3713 асобнікаў.